Палітычны трыпціх

Людміла МАЙСЕНЯ

# 2. Беларускія арэлі для расійскай дзяржаўнасці,

## або

## Да ролі Беларусі ў распадзе Расіі

*(Праціяг. Пачатак у № 15.)*

Абмяркоўваць, магчымы ці немагчымы распад Расійскай Федэрацыі, не варта. Выглядае, што шанц пабудовы сапраўды дэмакратычнай і заможнай супердзяржавы наша суседка канчаткова страчвае. Бо, каб скарыстаць яго, трэба было перагледзець дзяржаўную ідэалогію, адышоўшы ад векавых традыцый Арды — самадзяржаўя — камунаімперыі. Сёння ўжо відавочна, што Расія не існуе як цэльны арганізм адпаведна тым заканадаўчым прынцыпам, якія закладзены ў яе апошняй Канстытуцыі. Уяўляецца асэнсаваным ставіць два наступных пытанні: 1) ці магчыма яшчэ "загнаць" рэальную расійскую сітуацыю ў рамкі Канстытуцыі (пад адзін цэнтр); 2) ці, у імя захавання хоць на які час імперскай нацыянальнай ідэі, давядзецца пераглядаць прынцыпы ўладкавання дзяржавы, замяняючы федэрацыю на канфедэрацыю (гэта значыць, больш-менш падганяючы заканадаўства пад рэальнасць)? Аднак аргументаванае даследаванне такіх праблем пакінем расійскім палітолагам. Для нас жа актуальна пытанне наконт ролі Беларусі ў працэсе распаду Расіі.

Найперш, ці мае ўсё ж наша краіна гэтую самую ролю ў названай гістарычнай дзеі? І калі мае, якая яна: галоўная, эпізадычная ці пазасцэнічная? Бясспрэчна — не галоўная. Галоўная роля за аб'ектыўнымі прычынамі, у тым ліку — за дысбалансам паміж палітычнымі і эканамічнымі рэаліямі, а таксама за несумяшчальнасцю наяўнай дзяржаўнай ідэалогіі і дэмакратыі. Аднак нельга пагадзіцца, што **саюзнай** краіне Беларусі адведзена нешта адсутна-прысутнае — па-за сцэнай. Праблема тут, здаецца, намнога глыбей. Той уплыў, які рабіла Беларусь апошнія чатыры гады на расійскія працэсы, можна назваць **беларускім ГКЧП запаволенага дзеяння**. Пры гэтым заўважым, што (як і першы раз — у выпадку вядомага ГКЧП) мэта ставілася тая ж — рэанімаванне і ўзмацненне супердзяржавы. Да чаго прывяло ігнараванне аб'ектыўнай рэальнасці сем гадоў назад, нам добра вядома. Пабочныя эфекты сённяшняга ўзнаўлення, справакаваныя і беларускім актыўным удзелам, будуць не менш істотныя. Не прэтэндуючы адразу на вычарпальны адказ, прааналізуем некалькі фактараў уплыву: **рэгіянальны, эканамічны, палітычны, ідэалагічны, міжнародны**. Пры гэтым гутарка будзе тычыцца выключна сучаснага палітычнага моманту, калі рэзкія рухі на афіцыйнае (і антыканстытуцыйнае) замацаванне новага дзяржаўнага ўтварэння тыпу Беларусь плюс Расія (канфедэрацыя) або Расія мінус Беларусь (федэрацыя) яшчэ не зроблены.

Ужо не аднойчы пісалася, што так званая рэгіянальная палітыка Беларусі мела і мае на мэце найперш увасабленне асабістых палітычных планаў нашага прэзідэнта (якіх — ужо вядома ўсім). У меншай ступені — гэта спроба "прамога эканамічнага кантакту". (Хутчэй, другое ёсць абалонка, абгортка першага.) Але ёсць і іншы бок медаля. Мінаючы "Цэнтр", завязваючы напрасткі кантакты з расійскімі рэгіёнамі, як бы там ні было, незалежная Беларусь разгойдвае дзяржаўнасць суперсуседкі. (Тут трэба нагадаць, што ўсяго падпісана каля сарака пагадненняў паміж нашай **дзяржавай** і пэўнымі расійскімі **рэгіёнамі**). Сусветная практыка дыпламатыі не ведае такіх шырокіх кантактаў кіраўнікоў непараўнальна рознага афіцыйнага статусу. Заахвочваючы самастойныя палітычныя і эканамічныя ініцыятывы, мы тым самым крок за крокам спрыяем стварэнню замкнёных рэгіянальных структур унутры Расійскай Федэрацыі. А што азначае чыста псіхалагічна роўнавялікі кантакт прэзідэнта Беларусі (якую ён публічна ідэнтыфікуе як **суверэнную дзяржаву**) з прэзідэнтам або губернатарам адпаведнага расійскага **рэгіёна**! Яны ж таксама людзі! Яны ж таксама маюць свае палітычныя амбіцыі!

Асноўным козырам пры давядзенні да вушэй і свядомасці расійскага электарату пераваг беларускага вобразу жыцця была выбрана, як вядома, эканоміка. Прапагандысцкія "вынікі" ажыўленай на Беларусі савецкай эканамічнай сістэмы мэтанакіравана тыражаваліся на шырокія расійскія прасторы. Разам з іншым гэта садзейнічала таму, што ў знясіленага ад мафіёзна-рынкавых пераўтварэнняў "старшего брата" спакваля фарміравалася настальгія па старых часах. Той беларускі эканамічны цуд, пра які рэгулярна даводзілі расіянам, усё больш і больш кантраставаў з расійскай рэальнасцю. Суседняму народу было і застаецца не да аналізу, што пенсіі і зарплаты ў нас у многа разоў ніжэй; што інфляцыя ў Беларусі ідзе недасягальнымі тэмпамі; што ў імя палітычных і эканамічных мэтаў пэўных асоб мы выхалашваем расійскі бюджэт, разлічваючыся бартэрам; што працавіты беларускі народ (іншы па сваёй ментальнасці) выжывае ў многім, паліваючы потам свае "соткі"; што ўжо няма рэзкіх бунтаў беларускіх рабочых, бо разам з наступленнем павольнага сепсісу ў эканоміцы (замест "шокавай тэрапіі") наступае і павольнае задурманьванне разумення сітуацыі; што тая народная дыпламатыя, якую здзяйсняюць па сваяцкіх кантактах грамадзяне Беларусі расійскага паходжання, — гэта часта дыпламатыя людзей, якія ненавідзяць Ельцына і любяць Лукашэнку (насуперак усяму) толькі за тое, што ён гатовы "зліцца" з Расіяй. Ва ўсякім разе, як кажуць у народзе, *з кім павядзешся — ад таго і набярэшся*. Паводле таго ж сцэнару, што і ў Беларусі, цяпер абмяркоўваецца магчымасць рэстаўрацыі сацыялістычнай эканомікі і ў Расіі.

Казаць пра значэнне палітычнага фактару ў дачыненнях з Усходам вымушае афіцыйна абраны ў Беларусі курс на вяртанне аўтарытарных метадаў кіравання. На нашай тэрыторыі не толькі пачалася актыўная апрабацыя вяртання ў мінулае, але і менавіта ў нас сканцэнтравалася найбольшая колькасць гарачых прыхільнікаў рээкспарту сацыялістычнай рэвалюцыі. Пастаянныя і шчыльныя кантакты беларускіх уладных асоб з расійскай імперска-камуністычнай апазіцыяй улівалі апошняй (хоць, можа, і нязначна) свежую донарскую кроў. Зараз зразумела, да якой стабільнасці ў Расіі вядуць акрыялыя прасавецкія сілы — да ўзмацнення супярэчнасці паміж палітычнымі жаданнямі і рэальнасцю. У кантэксце палітычнага ўплыву трэба нагадаць і настойлівую цягамоціну са стварэннем наддзяржаўных заканадаўчых і выканаўчых органаў. Парламенцкі сход, парламент Саюза, падвойнае грамадзянства, агульны бюджэт... Усе гэтыя ініцыятывы небяспечныя для незалежнасці Беларусі. Але з цягам часу ўсё больш рэальным становіцца дапушчэнне, што небяспека такіх "гульняў" з нашым (беларускім) удзелам не меншая і для Расіі. Пры вялікай нестабільнасці яны ўскосна закладваюць у масавую псіхалогію расіян думку пра магчымасць рэвізіі сённяшняга дзяржаўнага ладу ў федэрацыі. Але такая рэвізія можа пайсці і не на карысць. Ці не саслужыла яна ўжо сваю службу для суверэнізацыі, да прыкладу, Калмыкіі? І ці не лагічная высноваўсяго гэтага нядаўнія заявы прэзідэнтаў Інгушэціі і Татарстана пра пашырэнне паўнамоцтваў, якія паступілі імгненна пасля новых беларускіх ініцыятыў на "ушчыльненне без заціскання"? Згадзіцеся, ёсць пытанні.

У якасці ідэйнага абрамлення беларускага ўплыву на расійскую рэчаіснасць выбрана панславісцкая ідэалогія і так званая інтэграцыя. Па сутнасці ж, гэта поўнае **самаадмаўленне ад уласнабеларускай нацыянальнай ідэі**. Рэкламуецца і навязваецца **расійская** нацыянальная ідэя, істотным момантам якой з'яўляецца палітычная экспансія — тое, што не ўласціва беларускай ментальнасці (што, паводле ўсведамлення прагрэсіўных расійскіх палітолагаў, якраз і губіць зараз Расію). Заахвочваючы шавіністычны сверб, беларускія калабаранты працягваюць разбэшчваць "братский славянский народ" у пераломны момант яго гісторыі. У звязку з гэтым узнікаюць натуральныя пытанні. Якая палітыка ў дачыненні да Усходу з'яўляецца сапраўды сяброўскай — беларуская ці, да прыкладу, латвійская? У выніку якой з іх Расія больш паспяхова можа сканцэнтравацца на ўласных праблемах выхаду з крызіса дзеля паляпшэння жыцця сваіх грамадзян? А можа, гэта і ёсць тая сітуацыя, калі *благими намерениями дорога в ад вымощена*? Дазволю сабе сумную іронію, якая ўзнікае пры аналізе прычын настойлівага акцэнту на славянстве, не характэрным як татальнае для Расійскай Федэрацыі. Можа, гэта "геніяльны" погляд у будучыню? У тую самую будучыню, калі расійская імперыя, страціўшы Чэчню, Дагестан, Татарстан, Башкартастан і г.д., звузіцца да Рускай дзяржавы (да якой больш падыдзе азначэнне славянскай) і тая зноў будзе актуалізаваць сваё пашырэнне за кошт славянскай Беларусі? Рэалістычнае здзяйсненне гэтага тады і зараз недапушчальна для існавання беларускай нацыі.

І, нарэшце, міжнародны фактар. Заганяючы сябе ўсё глыбей і глыбей у агульнаеўрапейскую ізаляцыю, Беларусь, як сатэліт Расіі, стварае на міжнароднай арэне дадатковыя праблемы для ўсходняга саюзніка. Скандальныя заявы А.Р.Лукашэнкі (якія, падобна, робяцца найперш для глабалізацыі сваёй персоны ў свядомасці беларускага і патэнцыяльна рускага электарату) не спрыяюць павышэнню аўтарытэту Расіі за мяжою. Усё больш актыўнае ўвязванне беларускай апазіцыяй (у кантактах з Захадам) нашых унутраных праблем з расійскай падтрымкай беларускага парадку пакрысе фарміруе думку пра сапраўдныя прычыны жывучасці мінскага рэжыму. Стала ўжо заканамернасцю, што на міжнародным узроўні адабрэнне афіцыйнай лініі Мінска назіраецца толькі ад Масквы. Аднак пацверджаныя дзесяткамі прыкладаў парушэнні правоў чалавека ў Беларусі робяць усё больш цяжкімі намаганні расійскай "адвакатуры" ў беларускай справе. Зноў пытанні. Ці спрыяе ўсё гэта самой Расіі ў такі няпросты яе перыяд? Ці ўзмацняе гэта яе палітычныя і эканамічныя стасункі са свабодным светам? Ці не можа гэта стаць дадатковым аргументам за спыненне штучнай падкормкі імперыі? А што калі заходняя боязь яе пашырэння і ўзмацнення стане большай за боязь яе распаду? Пытанні, пытанні...

...Амплітуда ваганняў беларуска-расійскіх палітычных арэляў нарастае, павялічваючы небяспеку для жыццяздольнасці **абедзвюх** дзяржаў.

Для беларускай жа супольнасці жыццёва неабходна не трапіць у той пякельны агонь, які можа разгарэцца на Усходзе, калі цэнтрабежныя сілы набяруць сваю моц. Тады наш рух да крамлёўскага цэнтру можа быць для нас непасільным — як рух супраць няўмольнай стыхіі. На шчасце, разуменне гэтага ў беларускім народзе нарастае. **Прадухіленне ж нацыянальнай катастрофы — сапраўды гістарычная задача для дэмакратычнай апазіцыі. На грунце гэтай задачы (роўна як і на будаванні беларускай дзяржаўнасці) можна і трэба аб'ядначца**.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Стоп-кадр

Жанчына моліцца з абразом у руках і ахінае сябе крыжом, каб толькі вецер не прыгнаў агонь пажару на вясковыя хаты. (Вёска Слабодка Лепельскага раёна, лістапад 1998 г.)

Фото IREX/ProMedia.

## Делегация промышленников и предпринимателей Беларуси побывает на Ганноверской универсальной ярмарке

Посещение этой крупнейшей экспозиции мира, на которой наша республика представлена самостоятельным разделом, организует Белорусская торгово-промышленная палата с 19 по 24 апреля.

Участники этой деловой экскурсии ознакомятся с новейшей техникой, представленной странами всех континентов. Среди них электрические средства автоматизации и производственное оборудование, манипуляторы и роботы, приводы и гидравлика. Кроме того, на этом международном форуме будут демонстрироваться современные исследования, проводимые в различных сферах, и самые эффективные технологии.

**Тереза ХАЮТИНА.**

## "Белавия" покорила сердца чехов

Белорусская государственная авиакомпания "Белавия" признана наиболее динамично развивающейся среди аккредитованных в Чехии иностранных авиакомпаний. По своим экономическим показателям и темпам роста пассажирских перевозок на чешском авиарынке она обошла российский "Аэрофлот" и другие компании стран СНГ.

Авиакомпания обеспечивает себе удобные стыковки через Прагу, чтобы осуществлять рейсы из Беларуси во все страны мира, заявил в эксклюзивном интервью корреспонденту БелТА генеральный представитель "Белавии" в Чехии Михаил Матвейчик.

Успех работы "Белавии" на чешском авиарынке обусловлен динамично развивающимися связями между Беларусью и Чехией в экономической и культурной сферах.

**Лилия ВАСИЛЬЕВА.**

Откроем глаза

## ...А ведь было обещание уйти в отставку

В сельской местности пока еще редко можно встретить человека, который бы понимал то, что в действительности происходит в Беларуси. Большинство людей по-прежнему благодарят вождя за то, что нет войны, что "хотя и маленькую, но своевременно выплачивают пенсию", радуются, что в России живут гораздо хуже и т.д. Люди зомбированы, зашоренные, напичканные информацией из государственных СМИ. Откуда взяться иному мнению, когда они подспудно понимают: в стране социализма не может быть иного мнения?..

В период предвыборной президентской кампании А.Лукашенко давал народу обещания в случае его прихода к власти жестоко расправиться с жуликами и коррупцией, запустить промышленность, сельское хозяйство поднять на такую высоту, на которой оно еще никогда не стояло.

Было и обещание в случае ухудшения состояния экономики и снижения жизненного уровня населения Беларуси уйти в отставку.

Многое за четыре с лишним года своей энергичной деятельности президент выполнил: "запустил" заводы и всю промышленность в целом, сельское хозяйство оказалось на такой "высоте", на какой оно действительно никогда не было. В результате жизненный уровень населения в 1998 году по сравнению с 1994 годом снизился в несколько раз. Но так как обещание уйти в отставку было дано в пылу полемики с оппонентами сгоряча, а на самом деле в планы президента не входило, то пришлось уже по ходу дела менять тактику и вносить коррективы в президентскую программу управления государством.

Новая идея была взята из старого арсенала "завоеваний социализма", а именно: славяне должны верить во что-то, иначе стоит ли жить без веры? Должен быть образ вождя с поднятой, указующей рукой (можно и с приложенной к сердцу). И он в Беларуси появился!

Вместе с образом вождя в Беларуси появилась и перспектива: где-то в начале следующего тысячелетия достичь "расцвета" республики, в котором она пребывала в 1990 году!

Давайте на миг вернемся в то "золотое времечко".

Экономика могучего государства под названием СССР спускалась с "сияющих вершин" и была галопирующая инфляция; в советской экономической науке была изобретена новая формула эпохи развитого социализма: паспорт + деньги = товар. Тогда же было реанимировано лучшее шариковское изобретение — карточки на продовольственные и промышленные товары.

Помню, как имея нищенскую учительскую зарплату, я заходил в магазины г.Солигорска, чтобы хоть на что-то потратить деньги, но на полках лежали только орудия убийства: мышеловки, мухобойки и чугунные гантели.

Тогда же под руководством "ума, чести и совести" страна начала перестраивать развитой социализм в "социализм с человеческим лицом".

Думаю, что читатели проанализируют, сравнят и сделают выводы о том, чего уже мы достигли, перестраивая наше государство в страну "рыночного социализма".

Успехи налицо: даже премьер-министр России Е.Примаков, а после и его заместитель приезжали в Минск за опытом по успешному преодолению экономического и финансового кризиса (помните, это гордо звучало с экрана БТ!).

К главному успеху можно добавить и многие мелкие атрибуты недавнего социалистического прошлого: у нас повсеместно проводятся ленинские субботники, создаются штабы по созданию напряженности на фронтах в битве за урожай и сытую зимовку скота, стираются грани между городом и деревней, возобновляя шефские связи предприятий с колхозами и совхозами, набирает обороты идеологическая машина по оболваниванию народа...

Если есть успехи, то и результаты очевидны: население Беларуси начало вымирать физически и морально. Невооруженным глазом видна деградация и ущербность "масс", возрождается единомыслие, стукачество, все, как было на протяжении советского времени.

О деградации власти говорить много не следует. Кто видел по БТ заседания Штаба с участием А.Лукашенко, тот замечал, как он прилюдно оскорбляет и унижает убеленных сединой ветеранов власти — и ничего! Сидели, терпели, а потом как ни в чем не бывало в интервью журналистам признавали критику здоровой, справедливой, подчеркивая гениальность и дальновидность вождя, чьи портреты на коммунистических митингах и демонстрациях носят вместе с портретами Ленина и Сталина. Стыдоба!

Образы врагов как внутренних, так и внешних — вот тот жупел, при помощи которого правящий режим Беларуси пытается увести белорусский народ от насущных проблем — хорошо работать и хорошо жить, "людзьмі звацца".

А на самом деле среди "врагов" есть много людей умных, честных, знающих, что надо делать и как надо делать, чтобы вытянуть республику из болота, в котором она сидит уже не первый год. Пока время этих людей не пришло. Но в народе зреет понимание того, кто есть кто. И это вселяет оптимизм и надежду!

**К.БОГДАНОВИЧ,**
**пенсионер.**

д.Величковичи
Солигорского района.

## Буры вугаль — таксама вугаль...

Паспяхова завяршыліся ў Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці работы па дэталёвай разведцы Брынёўскага буравугальнага радовішча. Спецыялісты вытворчага аб'яднання "Белгеалогія" забяспечылі перавод 8,2 мільёна тон запасаў вугалю ў вышэйшую прамысловую катэгорыю.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў аб'яднанні, з улікам раней выкананых даследаванняў агульныя запасы бурага вугалю на гэтым радовішчы ацэньваюцца ў 35 мільёнаў тон. Ён прыгодны для вытворчасці брыкету ў якасці бытавога паліва.

**Тацця на СМІРНОВА.**

## Отечественные комбайны для хлебной нивы становятся реальностью

Серийное производство зерноуборочных комбайнов КЗС-10 будет налажено в нынешнем году в производственном объединении "Гомсельмаш". Об этом заявил во время встречи с брестскими аграриями приехавший в город над Бугом заместитель генерального директора гомельского предприятия Иван Протура. Он отметил, что несколько опытных образцов этой современной зерноуборочной машины прошли довольно успешные испытания на машинных станциях Беларуси, Украины и России. По их результатам и было принято решение выпустить в текущем году 50 таких комбайнов.

Перед коллективом предприятия поставлена задача довести в 2001 году объемы производства этих машин до 500 штук. Кроме того, еще две новые модификации зерноуборочных комбайнов с гомельской маркой будут отправлены нынче на испытания.

**Иван КУКСА.**

## 24,4 мільярда рублёў прынёс гарадскому бюджэту апошні аўкцыён у Гомелі

Тры аб'екты куплена на першым у гэтым годзе аўкцыёне па продажы гарадской камунальнай уласнасці, што прайшоў у Гомелі 26 студзеня. Гэта — складскія памяшканні, незавершанае будаўніцтва і адміністратыўны будынак у цэнтры горада.

Менавіта вакол апошняга лота разгарэлася барацьба ўдзельнікаў таргоў, у выніку чаго ён быў прададзены за 22 мільярды рублёў, што ў 11 разоў перавысіла яго пачатковы кошт. У выніку таргоў гарадскі бюджэт папоўніўся на 24,4 мільярда рублёў.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Акцыі

## Будучыя маці і малышы павінны не толькі добра, а і правільна харчавацца

У рамках акцыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, накіраванай на прапаганду груднога выкормлівання, мінскі цэнтр падрыхтоўкі да родаў "Калыска" вырашыў арганізаваць цыкл бясплатных лекцый па пытаннях харчавання цяжарных жанчын, кормячых маці і дзяцей груднога ўзросту. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў цэнтры "Калыска", для многіх жанчын — гэта вельмі актуальная праблема, што пацвярджае і перагружанасць спецыяльна арганізаванай прамой тэлефоннай лініі. Аднак урачы-педыятры не на ўсякае пытанне могуць даць грунтоўны адказ па тэлефоне.

Дапамагчы цэнтру арганізаваць дабрачынныя лекцыі ўзялося беларускае прадстаўніцтва аўстрыйскай фірмы "Hipp". Мяркуецца падрабязна "праштудзіраваць" самыя розныя тэмы, якія датычаць груднога, змешанага і штучнага выкормлівання, тэрмінаў увядзення прыкормліванняў і многага іншага. Званкоў маці, для якіх неабыякавае здароўе іх малышоў, чакаюць у цэнтры па тэлефоне 237-88-28. Дарэчы, сярод першых акцыю СААЗ падтрымала Міністэрства аховы здароўя. Добра, што ў адзіноцтве яно не засталося.

**Віктар КУКЛОЎ.**

Проблема

# НАСИЛИЕ

**По решению Европейского Союза 1999 год объявлен годом борьбы с насилием, а 8 марта — центральной датой этого года.**

### Дикость или банальная бытовуха?

Муж сломал ей нос... Дело было на кухне. Она мыла посуду, а он держал на руках трехмесячного сына. Старшая дочь в это время была в школе. Шла обычная семейная перебранка. "Если сейчас же не заткнешься, получишь в морду", — вдруг пригрозил ей муж. Она не замолчала и ответила что-то колкое. Он отнес сына в кроватку, вернулся, спокойно подошел к ней и ударил кулаком в лицо. Не в яростном порыве, не защищаясь, не отвечая на пощечину. Просто ударил, чтобы показать, что как он сказал, так и будет, чтоб и впредь жена знала, что его слово твердое, что мужу надо подчиняться. Он просто ударил крепким мужским кулаком в хрупкое женское лицо. Сломал нос и выбил несколько зубов. В больнице сочувственно спросили: "Был пьяный?" "Нет, — ответила она. — В том-то и дело, что трезвый..."

Кто-то воскликнет: "Какая дикость!" "Обыкновенная история", — скажут уже побывавшие в подобной передряге, будь то разгневанный "мститель" или же его жертва. "Банальная бытовуха", — констатирует сотрудник правоохранительных органов.

А ведь этому есть очень емкое определение. **Насилие.** Рядовое, неожиданное, повседневное, шокирующее... Насилие, как норма и как аномалия. Насилие над женщиной...

Согласно определению Декларации ООН "Об искоренении насилия в отношении женщин" *"насилие в отношении женщин означает любой акт насилия, совершенный на основании полового признака, который причиняет или может причинить физический, половой или психологический ущерб или страдания женщинам, а также угрозы совершения таких актов, принуждение или произвольное лишение свободы, будь то в общественной или личной жизни".*

Попробуем проиллюстрировать все спектры это сухого определения яркими примерами, которые каждый день нам подкидывает сама жизнь. А также конкретными цифрами социологического исследования, проведенного несколько лет назад социологической службой "Общественное мнение" в Беларуси по репрезентативной национальной выборке.

### Эмоциональное насилие

...В любой ситуации он считал себя самым-самым. Самым главным, самым умным, самым великим, знающим и понимающим все от А до Я. Зарабатывал хорошо, жена недостатка денег не испытывала. Однако страдала от недостаточного его присутствия в семье. Он мог позволить себе явиться домой под утро, а то и вовсе не прийти ночевать. И без всяких объяснений. Кинет жене за свой ночной загул 50 или 100 долларов (своеобразную плату за молчание, покорность и терпение) и считает, что все вопросы сняты. А однажды жена пришла домой с дня рождения подруги под утро. Кем он только ее не обзывал — и последней шлюхой, и неблагодарной тварью, которую "подняли" из грязи в князи, которая не ценит, что такой человек дал(?!) ей беззаботную жизнь...

*Весьма распространенной в семейных отношениях является грубость (на это указали 47,8% респондентов), унижение друг друга (14,1%). Грубость большинством мужчин и женщин воспринимается как норма семейного общения, несмотря на ее проявления они удовлетворены своими отношениями в семье.*

### Физическое насилие

...Когда муж в очередной раз явился домой пьяный, она уже не смогла себя сдерживать. Заплакала, закричала... Он со всей силы толкнул ее о стенку, она ударилась головой. В исступлении он продолжал молотить кулаками по голове, груди. Рядом плакал маленький сын... На следующий день она пошла к участковому. "Давай мы его посадим на несколько дней, — предложил лейтенант. — Отпил мозги, мы их быстро вправим". Она отказалась. Стало жалко мужа. Через полгода пьяное избиение повторилось...

*Каждая четвертая женщина хотя бы раз в жизни была избита. В детстве девочки и мальчики страдают от физического насилия почти одинаково, но в старости женщины подвергаются физическому насилию чаще, чем мужчины. Постоянному физическому насилию подвергается 2,1% женщин. Физическое насилие над женщиной чаще всего происходит дома, в семье (67,7%).*

*Каждая 12-я из 100 опрошенных женщин считает, что мужчина может применить в определенных ситуациях по отношению к ней физическое насилие.*

### Экономическое насилие

...Ему не нравились пижамы, и поэтому она покупала всегда ночные рубашки. Он не разрешал ей ходить в баню, считал, что задушевные женские беседы в парной — первый шаг к распущенности, свободной жизни и, соответственно, измене. Все деньги, пусть даже немалые, он давал, строго рассчитывая все ее возможные траты, а крупные покупки предпочитал делать ей сам. Квартира, машина и загородный дом были куплены за его деньги. Об этом ей напоминалось регулярно. Она могла встречаться дома только с теми подругами, которые нравились ему. Некоторые ее родственники никогда не могли попасть к ним в гости. Иногда она с горечью говорила о том, что является лишь очередным платным приложением к тому образу жизни, который он сам себе создал за свои же деньги...

### Сексуальное насилие

...До поезда оставалось полтора часа. Было около восьми вечера. Уже стемнело. Она шла через небольшой скверик с тяжелой сумкой. Вдруг сзади ее обхватили крепкие мужские руки, и она почувствовала у своей шеи что-то острое. Кто-то глухо приказал: "Молчи, если хочешь жить, и иди со мной", — и потянул ее в сторону ближайшего дома. "Я тебе нравлюсь как мужчина?" — спросил он. Она начала умолять его отпустить, показывала билет на поезд, говорила, что едет к больным родителям. Все было бесполезно. И она начала лихорадочно думать о том, что же сделать, чтобы остаться в живых. Помощь пришла совершенно неожиданно. Когда они проходили мимо гастронома, из двери магазина резко выскочил мужчина... Насильник вздрогнул и ослабил хватку. Она вырвалась, бросила сумку и изо всех сил побежала... В тот вечер она не села в поезд, еще несколько дней боялась выйти на улицу...

*16,3% граждан Беларуси имеют среди своих друзей, родственников, знакомых тех, кто подвергся сексуальному насилию. 14% женщин отметили, что они лично подвергались сексуальному насилию или вынуждены были отвечать на сексуальные притязания помимо своей воли в различные периоды жизни.*

*Сексуальное насилие женщины чаще всего переживают в молодости(46,3%) и юности (29,3%). В зрелом возрасте(17,1%) и в детстве(1,2%). Причем почти с каждой второй пострадавшей это случалось неоднократно.*

Градации сексуального насилия очень широки — от жестокого группового изнасилования в подвале до вынужденного служебного романа на кожаном диване шефа, от внезапного нападения в лифте до совершенного подвыпившим супругом полового акта против воли жены.

### Словесное насилие

... Она еле-еле впихнулась с маленькой дочкой в автобус, который ехал из Уручья в военный городок. Была рядовая давка в час пик. На освободившиеся места быстро сели двое мужчин в военной форме. Она попросила уступить место ребенку. Один раз, два раза. Мужчина резко встал и возмущенно кинул реплику сидящему соседу: "Что с "голодной" женщины взять...".

Дура-баба, куриные женские мозги, стерва, психованная истеричка, зараза, идиотка — не правда ли, вам хоть раз в жизни приходилось слышать подобное, милые дамы?

### "Домостроевские" корни

"Следует мужьям поучать жен своих с любовью и примерным наставлением; жены мужей своих вопрошают о строгом порядке, о том, как душу спасти, Богу и мужу угодить и во всем покоряться мужу; а что муж накажет, с тем охотно соглашаться и исполнять по его наставлению..."— гласит старинный текст русского "Домостроя", книги, содержащей в себе полезные сведения, поучения и наставления всякому христианину — и мужу, и жене, и детям, и слугам, и служанкам. Я зачитывала эту цитату многим современным женщинам и мужчинам. Женская реакция почти всегда была явно возмущенно-отрицательная. А вот мужчины... Словно и не минуло несколько веков, единодушно поддержали древние правила. "А почему я должна мужу угождать?" — вопрошают современные дамы. "Эх, если б все они страх имели перед мужем и сознательно нам покорялись," — вздыхают мужчины. Дилемма трудно разрешимая. Особенно на пороге двадцать первого века, когда женщины стали так же, как и мужчины, сильны и в карьере, и в образовании, и в состоятельности, и в самооценке... И как уж тут не вспомнить современным Адамам, что их почему-то считают сильной половиной человечества, и не применить на деле свою силу. А ведь именно тогда "ослабленный" мужчина и прибегает к насилию. Чтобы его женщина знала, что все что она умеет и "...знает, это благодаря строгости и наставлениям хорошего мужа..." И чтоб, по "Домострою", "каждой жене мужа обо всем спрашивать и советоваться обо всем: и как на люди выходить, и к себе приглашать, и о чем говорить с гостями".

Времена те уж давно миновали, но "домостроевские" корни еще прочно сидят в нашей благодатной почве...

***

Вы терпите ежедневные оскорбления дома? Вас периодически избивают? Вас шантажируют увольнением с работы? Вам запрещают встречаться с подругами? Вас ограничивают в средствах? Вы часто чувствуете себя униженной и оскорбленной? Насилие стало нормой вашей жизни? Не молчите, не терпите, не держите все в себе. Имейте смелость бороться с насилием. Пока не поздно...

**Анна СОУСЬ.**

